**«З АДКРЫТЫМ ЗАБРАЛАМ»**



ПРЭМІЯ МІКАЛАЮ СТАТКЕВІЧУ

СТАР. 2

веснік ПРАВАБАРОНЧЫ

№2 02.2012

**ГЕНКОНСУЛ УКРАІНЫ**

ЗАСТУПІЎСЯ ЗА БАРАНАВІЦКІХ УКРАІНЦАЎ



СТАР. 3

БАРАНАВІЦКІ ПРАВААБАРОНЧЫ ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ

# ПРЫСУД СЯРГЕЮ КАВАЛЕНКУ – 2 ГАДЫ І 1 МЕСЯЦ АГУЛЬНАГА РЭЖЫМУ



Суддзя суду Першамайскага раёну Віцебска Алена Жук прызнала Сяргея Каваленку вінаватым ва ўхіленні ад адбыцця пакарання і асудзіла яго па артыкуле 415 Крымінальнага кодэксу да 2 гадоў і 1 месяца калоніі ва ўмовах агульнага рэжыму.

Пракурор Дзмітрый Лутаў запатрабаваў для Каваленкі 2 гады 8 месяцаў калоніі. Санкцыя артыкулу 415 КК РБ прадугледжвае да трох гадоў турэмнага зняволеньня

Сябра КХП-БНФ Сяргея Каваленку прызналі вінаватым у парушэньні рэжыму адбыцця «хатняй хіміі» — умоўнага пакараньня, прысуджанага за бел-чырвона-белы сьцяг, вывешаны 7 студзеня 2010 году на гарадзкой навагодняй ёлцы.

spring96.org

## Сяргей Каваленка будзе абскарджваць прысуд

Адвакат і жонка асуджанага віцебскага сябра КХП БНФ Сяргея Каваленкі выказалі намер падаць касацыйную скаргу на прысуд Алены Жук.

З улікам часу, адбытага ў віцебскім СІЗА, пакуль вялося следства і рыхтаваўся судовы працэс, актывісту належыць адбыць у зняволенні 1 год і 11 месяцаў.

Жонка актывіста Алена Каваленка кажа, што прысуд для яе быў шокам, паведамляе «Радыё Свабода». Нягледзячы на тое, што працэс праводзіўся практычна ў закрытым рэжыме, што на яго не пусцілі ні сваякоў, ні сяброў, ні журналістаў, родныя ўсё адно спадзяваліся на лепшае.

Адвакат лічыць, што ёсць сэнс абскарджваць гэты прысуд, пра гэта ён адразу сказаў сваякам Сяргея Каваленкі.

Напішам скаргу. Гэта не канчаткова. Ёсць сур'ёзныя аргументы ў нас. Я баяўся, што суд увогуле дасць тры гады – па «вышэйшай планцы». У нас дастаткова трывалая пазыцыя.

Жонка асуджанага актывіста таксама лічыць неабходным абскарджваць прысуд. Аднак вялікую занепакоенасць родных выклікае стан здароўя Сяргея. 19



снежня мінулага году ён абвясціў галадоўку. І на судзе, які ішоў ў Першамайскім райсудзе з 21-га па 24-га лютага, казаў, што гатовы яе працягваць, хаця адчуваў сябе кепска, скардзіўся на галаўны боль, пагаршэнне слыху і зроку.

Галадоўку Сяргей Каваленка распачаў на знак пратэсту супраць крымінальнага пераследу: супрацоўнікі крымінальна-выканаўчай інспэкцыі ініцыявалі супраць яго справу за парушэнне рэжыму «хатняй хіміі» — умоўнага пакарання, прысуджанага за бел-чырвона-белы сьцяг, вывешаны на гарадзкой навагодняй ёлцы ў 2010 годзе.

Паколькі родных не пусцілі нават на абвяшчэнне прысуду, нічога не вядома і пра тое, ці будзе Сяргей Каваленка працягваць галадоўку. Да яго неаднаразова звярталіся з просьбамі спыніць галадаванне, але яно было настолькі працяглае, што цяпер яму патрабуецца неадкладная мэдычная дапамога, каб бяз шкоды для здароўя выйсці з гэтага стану — так мяркуюць і сваякі, і ўсе, каму ўдалося ўбачыць Сяргея гэтымі апошнімі днямі.

*Працяг на ст. 2.*

## Зварот ПЦ «Вясна» да Сяргея Каваленкі



Шаноўны спадар Сяргей!

З вялікай трывогай сочым за Вашым прынцыповым учынкам абвесьціць галадоўку, і за тым, як Вы адстойваеце свае перакананьні, сваю грамадзкую пазыцыю за кратамі. Мы заклікаем Вас як мага хутчэй спыніць галадоўку, паколькі сёньняшнія ўлады не паважаюць ні Вашых перакананьняў, ні Вашага жыцьця. Мы лічым Ваш перасьлед выключна палітычным, і заклікаем Вас зьберагчы сваё здароўе для сваёй сям'і, жонкі, дзяцей, а таксама для Беларусі і яе будучыні.

У выпадку, калі судовы вырак 21 лютага будзе зьвязаны з пазбаўленьнем волі, мы будзем змагацца за Вашае вызваленьне, як і за вызваленьне кожнага з палітычных вязьняў. На сумленьні гэтай улады ўжо не адно злачынства, але ня варта такім чынам ахвяроўваць сабой.

Вы ўжо даказалі сваю мужнасьць, прынцыповасьць і непахіснасьць, таму мы вельмі хацелі б, каб вы прыслухаліся да нашай просьбы спыніць галадоўку.

З павагай,

Праваабарончы Цэнтр "Вясна"

spring96.org

## Дашкевіча паўторна змясцілі ў ШЫЗА на дзесяць сутак




Пра гэта Еўрарадыё паведаміла нявеста палітвязня Наста Палажанка.

Сёння адбылася чарговая сустрэча Дашкевіча з адвакатам. Як паведаміла Палажанка, Дашкевіча паўторна змясцілі ў ШЫЗА на 10 сутак – гэта максімальны тэрмін. Сустрэча праходзіла пад пільным кантролем супрацоўнікаў калоніі, таму падабаронны не мог канфідэнцыйна абмеркаваць з адвакатам пытанні юрыдычнага характару.

Адзін з фактаў, які паспеў паведаміць палітвязень, што ў ШЫЗА ён не можа чытаць Біблію. Нягледзячы на яго неаднаразовыя просьбы, адміністрацыя калоніі адмаўляецца перадаваць Дашкевічу Біблію.

Мінулы раз адвакатка сустракалася са Змітром Дашкевічам у пятніцу 17 лютага, калі ён таксама быў у ШЫЗА. Туды ён трапіў за адмову ўваходзіць у камеру да так званага "апушчанага", што аўтаматычна, паводле зэкаўскіх правілаў, пераявіло б яго ў аналагічны статус.

spring96.org

# МІКАЛАЙ СТАТКЕВІЧ УЗНАГАРОДЖАНЫ ПРЭМІЯЙ «З АДКРЫТЫМ ЗАБРАЛАМ»

Былы кандыдат у прэзідэнты Мікалай Статкевіч узнагароджаны прэміяй імя Юрыя Захаранкі «З адкрытым забралам». «За мужнасць, за гонар, за самаахвярнасць».

Прэмію 24 лютага жонцы палітыка Марыне Адамовіч уручыў сустаршыня аргкамітэта рэспубліканскага руху ветэранаў баявых дзеянняў «Абаронцы Айчыны» Алег Волчак.

Асуджанага па надуманым абвінавачванні ў арганізацыі масавых беспарадкаў Мікалая Статкевіча прэсуюць ўжо больш за паўгода.

«Статкевіч стаяў ля вытокаў нашай беларускай арміі. Адзін са стваральнікаў Беларускага згуртавання вайскоўцаў (БЗВ). Некаторыя з былых паплечнікаў сышлі ва ўладу, а Мікалай Статкевіч застаўся верны справе. Для Статкевіча сапраўды «Радзіма вышэй за ўсё!». Статкевіч не толькі ідэал беларускага афіцэра, але і ўзор беларускага мужчыны. Таму мы і вырашылі падтрымаць яго маральна», – адзначыў Алег Волчак.



Мікалай Статкевіч
Кандыдат на пасаду прэзідэнта Рэспублікі Беларусь. 26 траўня 2011 года асуджаны суддзёй Людмілай Грачовай на 6 гадоў калоніі узмоцненага рэжыму за тое, што выступіў супраць лукашэнкі на выбарах 19 снежня 2010 года.

Дыплом выканаў мастак-афганец Алесь Пушкін. Роўна як і стварыў сімволіку аргкамітэта «Абаронцы Айчыны». У цэнтры – ліцвін з адкрытым забралам на кані, у верхнім куце – бел-чырвона-белы сцяг і надпіс на латыні: «Радзіма вышэй за ўсё!» Сімволіка руху таксама прэзентаваная 24 лютага.

Прэмія імя Юрыя Захаранкі «З адкрытым забралам» уручаецца з 2005 года – Мікалай Статкевіч стаў уладальнікам восьмай па ліку прэміі.

belaruspartisan.org

## Сяргей Каваленка будзе абскарджваць прысуд

*Працяг са ст. 1.*

Супрацоўнікі міліцыі зрабілі ўсё, каб актывістня меў аніякіх кантактаў з тымі, хто прыйшоў яго падтрымаць. У калідоры, на адлегласці 30-ці мэтраў ад судовай залі, стаяла міліцэйская заслона. Калі асуджанага выводзілі, яго захіналі спінамі з паўтара дзясятка асобаў у цывільным... Намеснік начальніка аховы правапарадку і прафіляктыкі міліцыі грамадзкай бясьпекі УУС Віцебскага аблвыканкаму Андрэй Іваноў заявіў, што праца суду праходзіла нармальна, бо была пад надзейнай аховай.

У Першамайскім райсудзе будзе доўга адгукацца рэха скандальнага працэсу. Сваякі Сяргея Каваленкі, яго аднадумцы, журналісты і праваабаронцы запоўнілі скаргамі ўсю кнігу «Скаргаў і прапановаў», так што там не засталося ніводнага чыстага аркуша. Скаргі былі напісаныя і ў абласной управе ўнутраных справаў. Адпаведным службам давядзецца даць больш як паўсотні пісьмовых адказаў, чаму супрацоўнікі міліцыі чынілі гвалт у будынку суду, парушаючы законныя правы беларускіх грамадзянаў.

news.date.bs

## Алеся Бяляцкага этапавалі ў Бабруйск

Зняволенага старшыню Праваабарончага цэнтру "Вясна" Алеся Бяляцкага этапавалі з Жодзінскай турмы №8 ў Бабруйскую папраўчую калонію №2. Пра гэта стала вядома жонцы праваабаронцы Наталлі. Апошні ліст, які яна атрымала з Жодзіна, быў датаваны 12 лютага. Зараз высвятляецца, ці патрапіў праваабаронца ў Бабруйск, ці яшчэ на этапе перасылкі. Калонія № 2 размяшчаецца на ўскраіне Бабруйска. Пабудаваная 46 год таму. Тут



адбывалі пакараньне палітвязьні Андрэй Саннікаў, Андрэй Пратасеня, Андрэй Кім і Андрэй Бандарэнка.

Аляксей Пузікаў

## Галоснасць дапамагла хворым



У Баранавіцкай гарадской бальніцы ў некаторых палатах 06.02.2012 г. толькі плюс дзесяць градусаў цяпла.

Такая тэмпература, да прыкладу, у неўралогіі ў палаце № 311. Хворыя, сярод якіх ёсць і паралізаваны, ляжаць у палаце, нацягнуўшы на сябе па 2-3 адзіяла, у цёплых шкарпэтках, швэдрах і вязаных шапачках. Знутры на вокнах відаць тоўстыя кускі лёду, якія прымерзлі да вокнаў. Дактары "абнадзеілі" пацыентаў, што гэта самая халодная палата ў бальніцы, у іншых крыху цяплей. У палаце не працуе ўнітаз, ад гэтага прыходзіцца цярпець "непрыемныя пахі". Хворыя і іх наведвальнікі з жахам чакалі выходных дзён, калі зноў абяцалася вяртанне моцных маразоў, паведамляў ПЦ «Вясна».

Распаўсюд інфармацыі пра нізкую тэмпературу ў неўралагічным аддзяленні Баранавіцкай гарадской бальніцы, а таксама ўвага да гэтай праблемы журналістаў і праваабаронцаў далі станоўчы вынік. Пасля таго, як гэтая інфармацыя з'явілася на сайце Праваабарончага цэнтра "Вясна", у недзяржаўнай газеце "Intex-press", для хворых палаты наступілі добрыя змены. У палату № 311 завітала кіраўніцтва неўралагічнага аддзялення гарбальніцы, тэхнічныя службы. Санітаркі хутка памылі ваконнае шкло, нечакана тэмпература паветра павялічылася да +16, сантэхнікі спрабавалі адрамантаваць унітаз і падвесці халодную ваду. Прыехала і санэпідэмстанцыя, якая адразу забараніла ў гэтай палаце знаходзіцца хворым. Усіх хворых перавялі ў цёплую 314 палату. Тэхнічныя службы гарбальніцы адразу павялічылі тэмпературу ў пакоі, пафарбавалі сцены, вакно і падлогу, павесілі новую штору на вакно, Запрацаваў унітаз . Цяпер там зноў знаходзяцца хворыя.

Адначасова начальнікі бальніцы пачалі шукаць вінаватых ў агалошванні гэтай праблемы. Імі аказаліся не адміністрацыя і тэхнічныя службы бальніцы, якія трымалі тэмпературу паветра на ўзроўні ўсяго плюс 9-10 градусаў, а малодшы медыцынскі персанал ды санітаркі, якія пусцілі журналістаў у пакой № 314 без ведама ідэалагічнага аддзела гарвыканкама.

## Генконсул Украіны заступіўся за баранавіцкіх украінцаў

Генеральны консул Украіны ў Брэсце Іван Баранчык у суботу 18 лютага адказаў на зварот дэпутата Валынскай абласной Рады Ігара Гузя наконт просьбы апошняга падтрымаць украінскае аб'яднанне "Кабзар" у Баранавічах і кіраўніка ініцыятыўнай групы Міколу Чарнавуса. Консул праінфармаваў дэпутата, што была накіравана просьба аб выдзяленні памяшкання для грамадскага аб'яднання ўкраінцаў у Баранавічах намесніку старшыні Брэсцкага аблвыканкама Леаніду Цупрыку, і зараз консулят чакае адказу.



У лісце таксама гаворыцца, што на судзе, дзе спадара Чарнавуса прызналі вінаватым у самаўпраўстве пры стварэнні аб'яднання ўкраінскай дыяспары "Кабзар", прысутнічала дзеля падтрымкі супрацоўніца консуляту.

Як адзначае Мікола Чарнавус, які ўжо 2 гады дабіваецца ў баранавіцкіх гарадскіх уладаў памяшкання для юрыдычнага адрасу аб'яднання "Кабзар", ён удзячны і Генеральнаму консулу, і Ігару Гузю за падтрымку. Чарнавус спадзяецца, што ўлады ўсё ж пойдуць насустрач украінскай дыяспары ў горадзе.

Нагадаем, у студзені дэпутат Валынскай абласной Рады і каардынатар Цэнтра «Супрацоўніцтва без межаў» Ігар Гузь накіраваў дэпутацкі запыт у Міністэрства замежных справаў Украіны, амбасадару Украіны ў Рэспубліцы Беларусь і Генеральнаму консулу Украіны ў Брэсце з просьбай дапамагчы вырашыць канфлікт баранавіцкіх уладаў з мясцовымі ўкраінцамі. Дэпутат звярнуў увагу на нерэгістрацыю грамадскага аб'яднання «Кабзар», таксама пераслед ягонага кіраўніка Мікалая Чарнавуса. Ігар Гузь прасіў дзяржаўных асобаў аказаць у тым ліку садзеянне ў атрыманні на ільготных умовах памяшкання для аб'яднання ўкраінцаў. Ён нагадаў, што ва Украіне беларускім грамадскім арганізацыям арэнда памяшкання абыходзіцца 1 грыўну на месяц, у той час, як з украінскай дыяспары ў Баранавічах толькі за магчымасць арэндаваць памяшканне праз аўкцыён патрабуюць 9000 грывень – гэта 10 мільёнаў беларускіх рублёў.

Аляксей Пузікаў

## Барановичские власти запретили пикет против обнищания населения

Акция с количеством участников 10 человек планировалась на 18 февраля в старом парке на улице Комсомольской.

Как сообщил БелаПАН председатель Барановичской городской организации Белорусской партии левых «Справедливый мир» Виктор Тяпин, заявку на пикетирование против резкого снижения уровня жизни людей, повышения цен на товары и услуги подавал партийный активист Эдуард Карапетов.

Не дождавшись ответа на заявку, Карапетов позвонил в горисполком. Там сообщили: пикет запрещен, потому, что заявитель акции не заключил договоры с ОВД, учреждением здравоохранения и коммунальным предприятием.

«Я считаю, что истинная причина отказа – задавить все протестные выступления. О заключении договоров могу сказать одно: услуги этих госструктур, мы уже оплатили налогами», – заявил Тяпин. В текущем году это уже второй запрещенный местной властью пикет против обнищания населения. Первый активисты партии намечали на 28 января. В проведении акции было отказано из-за того, что заявка на нее не соответствует требованиям статей 5 и 6 закона «О массовых мероприятиях».

«В прошлом году барановичским активистам запретили все заявленные ими акции. И если ситуация не измениться, можно будет говорить, что в нашем регионе право на проведение массовых мероприятий ликвидировано», – резюмировал Тяпин.

Аляксей Пузікаў

## Прадпрымальнік Мікалай Чарнавус адстойвае дэмакратычныя працэдуры



Індывідуальны прадпрымальнік Мікола Чарнавус накіраваў скаргі Генеральнаму пракурору, у Адміністрацыю прэзідэнта і абласную пракуратуру, дзе просіць апратэставаць вынікі выбараў Савета прадпрымальнікаў на кааператыўным рынку гораду. Ён даводзіць, што выбары Савета, арганізаваныя гарвыканкамам і раённым спажывецкім таварыствам, не адпавядаюць беларускаму заканадаўству.

Па словах Мікалая Чарнавуса, гарадское кіраўніцтва праігнаравала абраны прадпрымальнікамі дэмакратычным шляхам Савет і стварыла новы са сваіх прыбліжаных, абвесціла яго склад, а пасля гэтага сабрала сход. У той жа час, заканадаўства патрабуе, каб спачатку быў праведзены сход, які павінен абраць Савет. І сход, і выбары Савета павінны праводзіць самі прадпрымальнікі, а не чыноўнікі.

Мікалай Чарнавус па гэтым пытанні звяртаўся ў пракуратуру Баранавіцкага раёна, якая палічыла за лепшае не ўмешвацца ў справу, але актывіст заняў прынцыповую пазіцыю і працягвае адстойваць прынцыпы, закладзеныя ў заканадаўстве.

## Генеральная пракуратура не знайшла падцвярджэнняў парушэння выбарчага заканадаўства

У суботу 11 лютага сябра партыі “Справядлівы свет” Віктар Цяпін з Баранавічаў атрымаў адказ з Генаральнай пракуратуры. Павел Радыёнаў, начальнік ўпраўлення па нагляду і выкананні заканадаўства, подпіс якога стаіць пад адказам, паведаміў, што Генеральная пракуратура не мае пісьмовых доказаў пра парушэнні выбарчага заканадаўства падчас рэгістрацыі кандыдатаў у прэзідэнты і выбараў прэзідэнта РБ 19 снежня 2010 года.



Па словах Віктара Цяпіна, ёсць толькі два варыянты. Калі б пракуратура прызнала, што Лукашэнка груба парушыў выбарчае заканадаўства, трэба адмяняць вынікі выбараў. Другі варыянт: прызнаць, што Лукашэнка проста хлусіў на прэс-канферэнцыі перад расійскімі журналістамі. Тады ён нанёс іміджу Беларусі, як прававодй дзяржаве, вялікую шкоду, а таксама беларускім грамадзянам.

Актывіст плануе падаць у Генеральную пракуратуру другую скаргу на Аляксандра Лукашэнку. Ён будзе прасіць прыцягнуць першую асобу дзяржавы да адказнасці за нанясенне маральнай шкоды як РБ, так і яе грамадзянам.

Нагадаем, што В.Цяпін прасіў Генеральную пракуратуру праверыць факты парушэння выбарчага заканадаўства Аляксандрам Лукашэнкам, які на прэс-канферэнцыі ў кастрычніку 2011 года ў парыве шчырасці паведаміў расійскім журналістам, што выбары прэзідэнта ў Беларусі прайшлі па паняццям Захаду, а не па заканадаўству. І што ён па дабраце сваёй душы падзяліўся з апазіцыйнымі кандыдатамі сваімі галасамі, каб іх зарэгістравалі.

## Баранавіцкі гарадскі суд традыцыйна на баку міліцыі



Суд Баранавіцкага раёну і г. Баранавічы у сераду 8 лютага разгледзеў справу грамадскага актывіста Аляксандра Вайцешыка. Суддзя Гарбачык Н.Н. прызнала яго вінаватым па арт. 364 КК за нанясенне цялесных пашкоджанняў супрацоўніку міліцыі і прысудзіла А.Вайцешыку 1 год і 6 месяцаў пазбаўлення волі ўмоўна. Баранавіцкі гарадскі суд традыцыйна падтрымаў бок праваахоўных органаў.

Аляксей Пузікаў

## У калоніі ціск на Аляксандра Францкевіча спыніўся



Супрацоўнікі міліцыі наведалі ў калоніі “Воўчыя норы” палітвязня Аляксандра Францкевіча з мэтай даведацца, ці аказвае адміністрацыя папраўчай установы на яго ціск.

Пра гэта Радыё Рацыя паведаміла маці зняволенага анархіста Таццяна Францкевіч, якой на днях патэлефанаваў сын.

– Паведаміў, што асаблівага ціску няма, апроч таго, што яго пазбавілі спаткання з-за парушэння. Кажа, нават прыязджаў хтосьці з аператыўных супрацоўнікаў міліцыі і пытаўся, ці аказваецца на яго ціск. Паведаміў таксама, што прашэння ад іх не патрабуюць, бо, відаць, гэта зараз не ў планах.

27 мая мінулага года Аляксандр Францкевіч быў асуджаны да трох гадоў пазбаўлення волі ў калоніі ўзмоцненага рэжыму. Праваабаронцы прызналі Францкевіча і яго паплечнікаў Мікалая Дзядка і Ігара Аліневіча палітычнымі зняволенымі і патрабуюць іх неадкладнага вызвалення.

spring96.org

“ПРАВААБАРОНЧЫ ВЕСНІК”

Баранавіцкі інфармацыйны праваабарончы бюлетэнь
З пытаньнямі, заўвагамі і прапановамі звяртацца на **e-mail: viasna_bar@tut.by**

Распаўсюджваецца бясплатна. Накалад 299 асобнікаў

весnік ПРАВААБАРОНЧЫ